


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

30 сакавіка 2001 года

№ 13 (310)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна



### Святкаванне ўгодкаў БНР

**МАЛАДЗЕЧНА.** З нагоды 83-х угодкаў абвяшчэння БНР ініцыятыўная група правяла ўрачысты сход ля помніка «Пакутнікам Беларусі». Шмат было моладзі.

Прысутным зачыталі зварот старшыні Рады БНР **Івонкі Сурвілы** да беларускага народа. У канцэрце выступілі бард **Андрэй Мельнікаў** і хор беларускай патрыятычнай песні. Свае вершы, прысвечаныя **Міколу Ермаловічу**, **Генадзю Карпенку** і іншым вядомым беларусам-незалежнікам, што заўчасна пакінулі гэты свет, чытаў маладзечанскі паэт **Лявон Цімохін**.

**Алесь ЦАДКО.**

**ВІЛЕЙКА.** У памяшканні грамадскага аб'яднання «Цэнтр Еўропы» прадстаўнікі інтэлігенцыі сабраліся «за кубкам кавы». Гучалі вершы беларускіх паэтаў, прысутныя спявалі народныя песні.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Закрываюць маршруты

**СМАРГОНЬ.** У сувязі з недастатковым фінансаваннем, адміністрацыя аўтапарка закрыла на нявызначаны тэрмін некалькі маршрутаў. З прыгарадных закрылі 16 маршрутаў, некаторыя істотна скарацілі. Акрамя гэтага, не працуюць другі і трэці гарадскія маршруты. Са 126 мільёнаў датацый з бюджэту на год за 3 месяцы аўтапарк атрымаў 4 мільёны.

**Павел МАКЛЮК.**

### Дарагія выхадныя аўтобусы

**МАЛАДЗЕЧНА.** З суботы ўсе гарадскія маршруты па выхадных днях каштуюць удвая даражэй, чым па буднях.

За поўны білет пасажырам трэба выкласці 120 рублёў, за льготны – 60. Калі ёсць праязны, то даплачваць не трэба. Павышэнне кошту тлумачыцца тым, што маршруты выхаднога дня – хуткасныя. На практыцы яны адрозніваюцца ад звычайных адсутнасцю 2–3 прыпынкаў.

Намеснік дырэктара аўтапарка **Віктар Руткоўскі** гаворыць, што новаўвядзенне прынята на падставе рашэння гарвыканкома і міністэрства транспарту і камунікацый.

Няпоўныя два тыдні таму аўтапарк увёў хуткасныя маршруты "13", "14", "15". Яны ўжо знятыя "з-за малога пасажырапатоку".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Мірон прыйшоў у Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ініцыятыва ўладаў, якія прапанавалі замест традыцыйнай адпрацоўкі на суботніку тройчы пералічыць грошы, падтрымкі ў народзе не знайшла.

Абурыўся і небезвядомы «Мірон» (мусіць, нехта з маладзечанцаў скарыстаў вядомае на Беларусі імя). На прадпрыемствах, у грамадскіх месцах горада з'явіліся лістоўкі, дзе змяшчаецца заклік на суботнік не ісці.

Невядомы аўтар лічыць, што гарадскія ўлады вырашылі за нашыя грошы зрабіць чарговае ўліванне ў калгасы. Замест гэтага ён прапануе рэфармаваць сельскую гаспадарку.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Адкрыўся салон відэагульняў

**ВАЛОЖЫН.** У Доме быту прадпрымальнікі з Маладзечна адкрылі салон відэагульняў. Гэта першы такі пункт у Валожыне. Гадзіна гульняў каштуе 500 рублёў. Салон адкрываецца а 9-й гадзіне раніцы, але каб купіць талончык, дзеці займаюць чаргу а палове восьмай.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Адмена электрычак



30 сакавіка
адпраўленнем у Мінск 13-41, прыбыццём з Мінска 13-49

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 31 сакавіка**

**Мінск**
-2 – -5°С (уначы)
2 – -3°С (удзень)



**Вільня**
-4°С (уначы)
3°С (удзень)



**Нядзеля, 1 красавіка**

**Мінск**
-4 – -7°С (уначы)
-3 – 5°С (удзень)



**Вільня**
-3°С (уначы)
5°С (удзень)



# Дабрачынная акцыя сям'і Папроцкіх

**МАЛАДЗЕЧНА. Людміла і Святаслаў Папроцкія арганізавалі сярод гараджанаў збор рэчаў для Асвейскай дапаможнай школы-інтэрната, што на Віцебшчыне.**



Малодшыя дзеці сям'і Папроцкіх разам з маці і любіміцай сям'і кошкай Лізай. *Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА*

У гэтай сям'і выпадкова даведаліся пра праблемы школы-інтэрната і створанага тут прытулку часовага ўтрымання. Людміла сама была старэйшай дачкой у сям'і, дзе раслі чацвёра дзяцей. Яе маці працавала ў дзіцячым доме. У сям'і мужа было трое дзяцей. У цяперашняй сям'і Папроцкіх таксама чацвёра дзяцей.

Селі ва ўласную машыну, паехалі ў Асвею. Убачанае там скаланула. На папячэнні знаходзяцца, у асноўным, разумова адсталыя дзеці. Ёсць і тыя, каго пакінулі бацькі (або за п'янства пазбаўленыя бацькоўскіх правоў). Узрушылі ўмовы, у якіх жывуць гэтыя і без таго няшчасныя маленькія людзі (усяго іх 105), кінулася ў вочы адсутнасць самага неабходнага.

У кожнай сям'і ёсць непатрэбныя рэчы. Вось і Папроцкія пачалі з рэвізіі ўласных рэчаў. Неяк неўпрыкмет зварнуліся да суседзяў, некаторых знаёмых. Затым на двух бліжэйшых магазінах з'явілася невялічкія аб'яўкі з прапановай прыносіць непатрэбнае адзенне, абутак для выхавацаў дома-інтэрната. Натуральным працягам этапеі сталася і аб'ява ў мясцовай газеце.

Дапамагла свая машына – неўзабаве Папроцкія паехалі па сем'ях, дзяржаўных і недзяржаўных арганізацыях і ўстановах Маладзечна.

– Я сама села за руль, – гаворыць Людміла. – У любы час магла прыехаць на дом ці кватэру.

Здаралася рознае. Знаёмыя неяк запыталіся:

– Ты што, у баптысты запісалася?

Як адказваць на падобнае? Па іх просьбе людзі пакідалі сярод рэчаў запіскі са сваімі прозвішчамі. Дык нехта напісаў: «За ўсіх жыхароў Беларусі». Якія мы, усё ж, розныя.

Актыўна ўключыліся ў збор рэчаў работнікі швейнага аб'яднання «Юнона», камбіната надомнай працы «Аксаміт», неслі рэчы з фабрыкі «Дыната» і абутковай, завода «Рамбыттэхніка» і ДРБУ-49. Не засталіся ўбаку праваахоўныя органы, сацыяльныя службы. Шмат рэчаў сабралі ў раённай натарыяльнай канторы.

Кватэра Папроцкіх на нейкі час ператварылася ў вялікі пункт збору.

– Гэта рана, – гаворыць Людміла. – Пасля ўбачанага ў Асвеі самі сабе сказалі: як не дапамагчы? Вось каб мы ўсе хаця б крыху дапамаглі. Дзецям наказала: «Каб вы таксама мелі спагадлівасць па сваім жыцці». Наогул, спяшайцеся рабіць дабро, каб бракавала часу на злое!

У выніку дабрачыннай акцыі ў Маладзечне сабрана і дастаўлена ў Асвею больш за 500 кілаграмаў вопраткі і каля 200 пар абутку.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Прыгадайце ваш самы арыгінальны першакрасавіцкі «прыкол»



**Таццяна Іотава, работнік вясельнага салона:**

– Калі я жыла ў інтэрнаце, напярэдадні 1 красавіка атрымала павестку ў міліцыю якраз на Дзень смеху. Але розыгрыш не прайшоў. Сама гэтым не займалася: не люблю падманваць людзей.



**Аляксандр Кулеш, вольны мастак:**

– Звычайна, розыгрышы стандартныя: выклікалі педагога да дырэктара. Аднойчы да мяне дахаты прыйшлі сябры і ў мой чаравік насыпалі шрубоў з балтамі. Цяпер разыгрываць нікога не буду, стары для гэтага.



**Уладзімір Траяноўскі, школьнік:**

– Летась прывязалі да ножкі стула вяроўку. Калі настаўніца матэматыкі хацела сесці, адзін з вучняў пацягнуў за вяроўку. Спрацавала з першага разу – настаўніца далася аб падлогу. Потым былі "разборкі".



**Анжаліка Петух, прадавец:**

– Я не лічу, што сур'ёзна разыгрываць кагосьці. Нават 1 красавіка. Ні мяне, ні сяброў у той дзень не разыгрывалі.



**Віктар Патаповіч, трэцякурснік палітэхнікума:**

– Мне пазванілі дахаты і сказалі, што 1 красавіка не будзе першай пары. Я і не пайшоў і атрымаў "н/б" – 2 гадзіны прагулу. Давялося даваць грошы старасту групы, каб ён спісаў пропуск. Але ён не згадзіўся, і я пайшоў "на ковер" да дырэктара.

**Раман Таўкачоў, навучэнец:**

– 2 гады таму ў кватэры павесіў над дзвярыма амаль поўнае пяцілітровае вядро з вадой. Маці адчыніла дзверы і атрымала "порцыю". Сказала, каб я і бацьку тое ж зрабіў, каб яму не было крыўдна. Другім "пацярпеў" ён. А сястры пашанцавала, што я не паспеў своечасова падрыхтаваць свой "сюрпрыз".



**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Яўген СТЭЛЬМАХ (фота).**

# 007 – тэлефон для адзінокіх і састарэлых

**МАЛАДЗЕЧНА. Каля месяца таму аддзяленне сацыяльнай дапамогі на даму справіла вымушанае наваселле. З ранейшага ўтульнага памяшкання работнікі перасяліліся ў некалькі пакойчыкаў. Прычына – прагніла падлога. Каб яе замяніць, патрэбна каля 4 мільёнаў рублёў.**

– У перспектыве аддзяленне мае шанец застацца тут надоўга, – гаворыць яго загадчыца **Любоў Федунец**. – Хаця мы рэгулярна зберагаем бюджэтныя сродкі. Утрыманне аднаго чалавека на даму ў год абышлося летась у 67500 рублёў. А ў інтэрнаце – 2051 рубель, але ў дзень, што ў пераліку ў 11 разоў больш. Цяпер нашы работнікі абслугоўваюць 335 чалавек. Такім чынам, "эканомім" штодзень на чалавеку 1867 рублёў. А пра малыя заработкі бюджэтнікаў усе ведаюць. Сярэдняя лютаўская зарплата сацыяльнага работніка – 35-40 тысяч.



**Былая настаўніца Браніслава Гаўрыленка аптымізму не губляе. Нават вершы пачала пісаць па-беларуску, хаця ў школе выкладала рускую мову і літаратуру.**

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

У ліпені аддзяленню спаўняецца 15 год. Галоўная задача яго на працягу ўсяго часу застаецца адна – дапамагчы ў жыцці адзінокім і інвалідам. У штаце 39 супрацоўнікаў. Сацыяльныя работнікі купляюць прадукты, лекі, прыбіраюць. Нарыхтоўваюць дровы і гародніну. Гэтая дапамога платная толькі для тых, хто мае дзяцей у горадзе. Такіх 18 чалавек.

На пытанне "адкуль да вас прыходзяць сацыяльныя работнікі?", Любоў Федунец смяецца:

– Час ужо са "Спадарожніка" патрабаваць кампенсацыю за працаўладкаванне іх былых работніц. Большасць навічкоў – звольненыя ці "скарочаныя" работніцы гэтага завода.

Сацыяльныя работнікі наведваюць сваіх падапечных 2-3 разы на тыдзень. На кожнага прыходзіцца 8-10 абслугоўваемых. Розныя трапляюцца людзі, але лістоў з удзячнасцю ад бабулек у аддзяленні назбіралася поўная папка.

Зрэшты, не толькі работнікі ходзяць да бабулек у госці. Бывае, і наадварот Аддзяленне рэгулярна ладзіць святкаванне юбілеяў сваіх падапечных, выстаўкі малюнкаў, запрашае з канцэртамі дзяцей. 2 гады існавала дзённае аддзяленне: кожную сераду сюды запрашалі ўрачоў, работнікаў музея, бібліятэкі, натарыусаў. Цяпер большасць мерапрыемстваў правесці ў новым памяшканні немагчыма: няма дзе.

Апошнім часам аддзяленне праводзіць і неадкладную сацыяльную дапамогу. Калі вы адзінокі чалавек і вам патрэбныя лекі ці прадукты, то тэлефануйце ў Маладзечне 007 – вам дапамогуць. Бясплатна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВЫХАВАННЕ

## Сацыялагічны аналіз у Залескай СШ

**СМАРГОНЬ. У Залескай СШ правялі апытанне. Дзеці выказалі свой погляд на характар кантактаў бацькоў і дзяцей. У школе за 1999 год колькасць няпоўных сем'яў складала 17. За 2000 год колькасць няпоўных сем'яў ужо складае 25.**

У змесце апісання маці паміж дзецьмі з поўных і няпоўных сем'яў розніцы не назіралася, затое заўважная тэндэнцыя апісання бацькі. Гадаванцы поўных сем'яў часцей, чым няпоўных, апісвалі татаў клопат пра іх, пра добрыя стасункі паміж бацькамі, пра сямейныя святы і усе радасці дзіцячага выхавання. З няпоўных сем'яў – яго патэнцыяльныя магчымасці ("тата можа працаваць", "можа купляць падарункі").

Апытвалася ў школе 20 дзяцей ва ўзросце ад 8 да 11 год. Іх прасілі таксама адказаць, што значыць "мама", "тата", "добрая" і "нядобрая" маці, тата. Высветлена шмат істотных разыходжанняў паміж апытаннямі груп у змесце ведаў пра бацьку і пра маці.

**Святлана КОДЗЬ.**

## Аркестр тэмбравых баянаў стане народным

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю ў канцэртнай зале музычнай школы прайшоў абласны агляд-конкурс народных і ўзорных калектываў.**

Пацвердзілі свае званні ўзорныя хор "Журавачка", ансамбль "Пацешкі", духавы аркестр і народны ансамбль "Харашуха".

Аркестр тэмбравых баянаў выкладчыкаў школы намінаваўся на званне "народнага". А ўзорны ансамбль "Самагуды" вызвалілі ад удзелу ў конкурсе, таму што ён перамог у абласным конкурсе "Іграй, гармонік".

Па выніках праслухоўвання журы адзначыла добры ўзровень калектываў, разнастайны рэпертуар. Аркестр тэмбравых баянаў неўзабаве стане народным. Засталося толькі аформіць дакументы.

Усяго ўзорных і народных калектываў у школе стане шэсць. Такой колькасці не мае ніводная школа вобласці.

Дырэктар дзіцячай музычнай школы **Бэці Аўдзеенка** зазначае, што наяўнасць і з'яўленне новых узорных і народных калектываў у значнай меры паспрыяла перамозе горада ў абласным конкурсе на лепшую пастаноўку работы ўстаноў культуры.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ІМЯНІНЫ

**30 сакавіка**
Праваслаўныя: **Аляксея, Гапея, Макара.**
Каталіцкія: **Амеліі, Леанарда, Яна.**

**31 сакавіка**
Праваслаўныя: **Кірылы, Трафіма.**
Каталіцкія: **Бальбіны, Карнеліі, Беніяміна.**

**2 красавіка**
Праваслаўныя: **Аляксандра, Анатоліі, Клаўдзіі, Матроны, Праскоўі, Святланы, Ульяны, Фядоссі, Віктара, Івана, Мікіты, Севасцьяна, Сяргея.**
Каталіцкія: **Уладыслава, Францішка.**

**3 красавіка**
Праваслаўныя: **Кірылы, Фамы, Фёдара, Якава.**
Каталіцкія: **Панкрата, Рышарда.**

**4 красавіка**
Праваслаўныя: **Васіля, Ісака.**
Каталіцкія: **Вацлава, Ісідара.**

**5 красавіка**
Праваслаўныя: **Лідзіі, Абрама, Амфілохія, Васіля, Генадзя, Дзмітрыя, Нікана.**
Каталіцкія: **Ірэны, Вінцэнта.**

## Цэнтр культуры адчынілі. Часова

**ВІЛЕЙКА. У мінулую сераду вілейскі Цэнтр культуры закрылі з-за невыканання правілаў супрацьпажарнай бяспекі. Але на мінулыя выхадныя ён працаваў.**

На імя начальніка Вілейскага пажарнага аварыйна-выратавальнага (ПАВА) **Пятра Багдановіча** прыйшоў ліст за подпісам начальніка абласнога Упраўлення па надзвычайных сітуацыях **Аляксандра Шылака**. У ім гаворыцца, што Мінскае абласное ўпраўленне па надзвычайных сітуацыях не супраць адкрыць вілейскі Цэнтр культуры да 1 ліпеня 2001 года для ўхілення парушэнняў правілаў супрацьпажарнай бяспекі. Гэтым жа лістом усклалі кантроль за выкананнем на начальніка ПАВА.

Загадчык аддзела культуры Вілейскага райвыканкома **Хрысціна Шымакоўская**:

– Аддзел культуры заключыў дагавор з мінскай фірмай на прапітку адзення сцэны. У панядзелак мы пералічылі 400 тысяч рублёў перадаплаты. Усяго "мерапрыемства" абыдзецца бюджэту ў 1,2 мільёна рублёў. Будзем ліквідаваць іншыя парушэнні.

Гэта не зрабілі раней таму, што грошай няма. Яшчэ будзем рамантаваць аварыйную сігналізацыю.

Гэтыя 1,2 мільёна па каштарысе не запланаваныя, няма іх у нас. Давядзецца з нечага здымаць, можа, з ацяплення, з асвятлення, на чымсьці эканоміць, каб прапітваць адзенне сцэны, рамантаваць пажарную сігналізацыю.

Культурна-масавыя мерапрыемствы да 1 ліпеня пройдуць па плане. На іх, на ўсялякі выпадак, будуць прыязджаць пажарныя машыны. На гэта аддзел культуры і ПАВА заключылі дагавор.

Лёс Цэнтра культуры вызначыцца пасля 1 ліпеня пасля праверкі выканання супрацьпажарных мерапрыемстваў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВЫСТАЎКІ

## Рэрых у глыбінцы

**АСТРАВЕЦ. Тыдзень, як у раённым Доме культуры працуе выстаўка з 22 камп'ютэрных копій карцін Мікалая Рэрыха.**

Дапамог у арганізацыі работнік мясцовага кінатэатра **Уладзімір Харытонаў** – прыхільнік рэрыхаўскай філасофіі. Ён і прывез копіі карцін і літаратуру з мінскага Цэнтра Мікалая Рэрыха.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

## Немцы паклапоцяцца пра садок

**МЯДЗЕЛ. Немцы з дабрачынных аб'яднанняў «Дамы замест Чарнобыля» і «ЭкаДом» ізноў наведалі раён. Дагэтуль яны пабудавалі цэлую вёску Дружная і вятрак.**

Цяпер абмяркоўвалі планы супрацоўніцтва у рамках гуманітарных праграм. Апроч усяго, немцы збіраюцца адрамантаваць дзіцячы садок і дом шматдзетнай сям'і (8 дзяцей) у вёсцы Занарач. Ёсць і іншыя праекты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Зноў у нашай школе свята

**МАЛАДЗЕЧНА. Добрай традыцыяй стала правядзенне ў дзіцячай музычнай школе захапляльнай гульні, імя якой – клуб вясёлых і знаходлівых.**

Апошнім разам яна сабрала чатыры каманды выпускнікоў 2001 года: "Кадэнцыя", "Мелодыя", "Ронда" і "До Rар Соль". Кожная з каманд імкнулася да перамогі, але і па-сапраўдным радавалася поспехам сапернікаў. У выніку лепшая стала "Мелодыя".

Арганізацыя і правядзенне гульні ляглі на плечы выкладчыкаў школы **Наталлі Панковай, Ларысы Башковай** і **Алены Каралёвай**. Дырэктар школы **Бэці Аўдзеенка** знайшла магчымасць кожнага ўдзельніка гульні адзначыць падарункам, а пераможцы, да таго ж, атрымалі салодкія прызы.

**Кацярына ХІЛА, навучэнка ДМШ.**

■ ДНІ



30 сакавіка – **70 год з дня нараджэння** (1931) **А. Пяткевіча**, беларускага крытыка і літаратуразнаўцы.
**1 красавіка – Дзень геолага.**
**2 красавіка – Заснаванне выдавецтва "Народная асвета"** у Мінску (1951).

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Гульня заканчваецца, усім дзякуй

**На мінулым тыдні Нацбанк знізіў стаўку рэфінансавання і, адпаведна, уліковую стаўку на 5% – да 70. У сувязі з гэтым чакаецца красавіцкае сніжэнне ставак прыцягнення свабодных грашовых рэсурсаў насельніцтва нашымі банкамі.**

Працэс аб'ектыўны – ва ўмовах зніжэння ставак і падзення даходнасці на рынку ГКО банкі не рызыкуюць браць на сябе абавязацельствы выплаціць па ўкладах больш, чым могуць зарабіць самі. І гэта ў нейкай ступені радуе: лепш шчыра і прама сказаць укладчыкам, што мы зніжаем стаўку даходу, чым будаваць ціхенька чарговую піраміду.

На рынку цяпер банкі прапаноўваюць, у лепшым выпадку, 90–100% гадавых па ўкладах на 3 месяцы, што ў пераліку на 360 дзён дае 7–8% даходу ў месяц. Рост курсу долара за сакавік з 1260 на пачатак месяца да цяперашніх 1330 (на 70 рублёў) прыводзіць да штомесячнай страты прыкладна на 6–7%. У выніку рэальны даход па ўкладзе ў рублях пры пераразліку на тэмп падзення нацыянальнай валюты складзе толькі 1% у месяц, што катастрафічна мала ў параўнанні з рызыкай (а раптам "зялёны" рэзка рване ўверх) і асабліва надзеямі большасці ўкладчыкаў – пенсіянераў.

Прыкладка столькі ж – 1% – даходу даюць сёння і валютныя дэпазіты пры гадавой стаўцы ў 10–14% у залежнасці ад сумы і тэрміну размяшчэння ўкладу. Пры ўмове надзейнасці банка ды і ўсёй банкаўскай сістэмы краіны.

Наогул, па выніках першага квартала можна канстатаваць, што гуляць з дзяржавай (укладаць рублі ў буйнейшыя банкі) робіцца не так ужо і прыбыткова: і дзяржава калісьці ж павінна пачынаць эканоміць. Цяпер для таго, каб зарабіць, трэба рызыкаваць. Аднак лепш, напэўна, наогул не зарабіць грошы, чым іх згубіць і зарабіць галаўны боль.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**




Фота Юліі ВАНСЛАЎ.

**Здымак быў зроблены ў абменніку ў снежні, калі амерыканскі долар з нямецкай маркай каштавалі амаль у два разы танней, як цяпер.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 22 сакавіка | 29 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1270,00 руб. | 1290,00 руб. |
| Нямецкая марка | 584,93 руб. | 588,14 руб. |
| Літ | 317,54 руб. | 322,62 руб. |
| Расійскі рубель | 44,33 руб. | 44,84 руб. |
| Злоты | 310,40 руб. | 313,69 руб. |
| ЕЎРА | 1144,02 руб. | 1150,29 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1310 – 1330 руб. | 1320 – 1330 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 21.03 | 28.03 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1850 | 1980 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6490 | 6490 |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | 2100 |
| Селядзец, 1 кг | 1464 | 1430 |
| Рыс, 1 кг | 480 | 500 |
| Грэчка, 1 кг | 460 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 570 | 570 |
| Алей, 1 л | 670 | 720 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 650 | 670 |
| Маянэз, 200 г | 230 | 220 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1400 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | 400 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 190 | 200 |
| Капуста, 1 кг | 280 | 280 |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1150 | 1150 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | 900 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | 850 |
| Бульба, вялікае вядро | 800 | 750 |
| Морква, 1 кг | 350 | 350 |
| Яблыкі, 1 кг | 430 | 380 |

## Новыя правілы гандлёвага ліцэнзавання

**МАЛАДЗЕЧНА. Выдаваць, спыняць або падаўжаць тэрмін дзеяння ліцэнзіі на гандлёвае абслугоўванне не будуць без подпісу старшыні таварыства абароны спажыўцоў. Гэта зазначана ў рашэнні гарвыканкома.**

Таварыства на практыцы экзаменуе ўсіх гандляроў. І на думку старшыні гарвыканкома Мікалая Чурсіна, яно будзе ведаць, ці ў стане прадпрыемства або прадпрымальнік выконваць гандлёвае заканадаўства.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Сеяць будзе начальнік са сталіцы

**МЯДЗЕЛ. Каля трох месяцаў была вакантная пасада начальніка ўпраўлення райсельгасхарчу. Тыдзень таму на яе прызначалі Мікалая Сечку.**

Па адукацыі ён аграном. Апошнім часам працаваў начальнікам аддзела ва ўпраўленні спажывецкага рынку Мінгарвыканкома.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## 25 год ільнозаводу

**СМАРГОНЬ. Споўнілася 25 год з дня заснавання Смаргонскага льнозавода.**

Ён працуе на сыравіне калгасаў і саўгасаў Смаргонскага і Астравецкага раёнаў. За гэты час завод вырабіў 35 тысяч тон валакна, з якога на аршанскім ільнокамбінаце зрабілі амаль 50 кіламетраў ільняных тканін.

Магутнасці завода дазваляюць атрымліваць штогод 2 тысячы тон валакна. Але калі ў 1990 годзе выраблена 1960 тон, то летась – 530 тон.

**Павел МАКЛЮК.**

## На лепшага цырульніка

**МЯДЗЕЛ. Адбыўся конкурс маладых цырульнікаў.**

Першае месца за жаночую прычоску «Паўночнае ззянне» атрымала **Алена Куцкевіч** з Нарачанскага дома быту, а за мужчынскую – **Тамара Місуна** з Мядзела. Яна зрабіла прычоску «Спакуснік». Жанчына лічыць, што гаворыць, мужчыны пастаянна павінны быць прыгожыя і спакуслівыя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Ашмяны і Маладзечна змагаюцца за валожынскага кліента

**ВАЛОЖЫН. Канкурэнцыю мясцоваму Дому быту і Ашмянскаму камбінату бытавога абслугоўвання (КБА) у рамонце абутку цяпер складае і маладзечанская прадпрымальніца.**

На валожынскім рынку працавалі раней прадстаўнікі і Смаргонскага КБА, але потым засталіся толькі ашмянцы. У адрозненне ад КБА, якія выконвалі заказы за тыдзень, прадпрымальніца дробны рамонт і прафілактыку абутку робіць за 2 дні.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ СПАЖЫВЕЦ

## Ці будуць плаціць Уладзіміру Кляшчу?

**МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовае аддзяленне таварыства абароны спажыўцоў спецыялісты лічаць лепшым у рэспубліцы з часу кіравання ім Уладзірам Кляшчом. Але ўсе чатыры гады работы ён працуе бясплатна.**

Гарадскі і раённы выканаўчыя камітэты аплачваюць арэнду памяшкання і тэлефонныя размовы, дапамагаюць арганізацыйна: паперай, канцылярскай драбязой. Але зарплатай ні старшыню таварыства, ні юрыста не забяспечваюць.

Толькі за два з паловай месяцы таварыства дапамагло задаволіць скаргі 45 спажыўцоў на суму 848 тысяч рублёў. Ад пачатку работы адных пісьмовых заяў было 563. Тут не ўлічаныя тэлефонныя кансультацыі. Акрамя гэтага, таварыства займаецца праверкай работы ўсіх арганізацый і прадпрымальнікаў.

Бясспрэчна, таварыства прыносіць карысць, і за работу трэба плаціць. Але хто гэта зробіць?

На пасяджэнні гарвыканкома Уладзімір Клешч прасіў дапамогі менавіта з бюджэту. Гаворка ішла пра 20–25 тысяч рублёў у месяц.

Але ў бюджэце свабодных грошай няма. Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** лічыць, што таварыства павінна зарабляць само. Тым больш, яно мае на гэта права.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Старшыня маладзечанскага таварыства абароны спажыўцоў Уладзімір Клешч.**

На ўсе віды паслуг: кансультацыю, складанне прэтэнзіі, падача заявы ў суд, абарона ў судзе – распрацаваныя стаўкі.

Мінімум – 35% ад "мінімалкі" (на сёння гэта 1995 рублёў).

– Людзі і так цяпер бедныя. Калі чалавек прынясе туфлі за 10–15 тысяч і яшчэ за экспертызу заплаціць каля трох тысяч, каб вярнуць грошы за няякасны абутак, як яшчэ і я буду з людзей браць? – гаворыць Уладзімір Клешч. – Ды і калі ўвесці плату, да нас звяртацца перастануць.

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** прызнае, што выканком праводзіць недастатковую арганізацыйную падтрымку таварыства, але і ён таксама раіць таварыству імкнуцца да самафінансавання. А наконт дапамогі паабяцаў канкрэтна пагаварыць пазней.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Чытачоў просім адказаць, ці патрэбна плаціць старшыні таварыства і за чый кошт?**

Зарплату трэба плаціць з бюджэту
Таварыства павінна браць грошы за паслугі з усіх кліентаў
Таварыства павінна браць грошы з больш багатых кліентаў
А навошта Уладзіміру Кляшчу грошы?
Іншае меркаванне ______________________

**Выберыце любы з чатырох адказаў ці запішыце ваш і да панядзелка адпраўце купон на адрас рэдакцыі.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Гвалтаўнік малалетніх

**СМАРГОНЬ. Міліцыя арыштавала спецыяліста ўпраўлення сельскай гаспадаркі. Яму прад'яўлена абвінавачванне ў згвалтаванні непаўналетніх (крымінальную справу праваахоўныя органы завялі якраз напярэдадні жаночага дня, таму «спецыяліста па малалетках» з камандзіроўкі чакалі ўжо).**

Затрыманне адбылося пасля заявы адной з пацярпелых, якую гвалтаўнік перад усім напаіў самагонам.

Распусныя дзеянні мужчына здзяйсняў у службовым гаражы. Хаця не раз чакаў свае ахвяры на лесвіцах дамоў і за цукеркі прасіў 10-гадовых дзяцей зняць трусікі... Імкнуўся ён мець справы з дзецьмі з некаторымі псіхічнымі ці развіццёвымі адхіленнямі. З імі было прасцей. Выяўленыя ахвяры прайшлі ў Жодзішках псіхіятрычную экспертызу на прадмет магчымых дзіцячых «фантазій».

Праваахоўныя органы вядуць расследаванне. У прыватнасці, падымаюцца ранейшыя падобныя справы. Падобнае здаралася ў Смаргоні прыкладна раз на год. Хаця абвінавачваемы сваё дачыненне да іх адмаўляе. Пасля арышту праз суд апратэставаў сваё затрыманне. Але суддзі палічылі, што падставаў для такой меры стрымання дастаткова.

Ад каментарыяў адказныя работнікі ўстрымліваюцца.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Нападзенні на ласей

**МЯДЗЕЛ. Ад пачатку года ў раёне зафіксаваны трэці выпадак, калі браканьеры забіваюць лася.**

Аднаго зламысніка затрымалі пры спробе прадаць ласінае мяса. Гэта жыхар Лукашэвічаў забіў з самаробнага ружжа цяжарную ласіху.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МЕСЯЧНІК ПАЖАРНАЙ БЯСПЕКІ

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 красавіка па 1 мая, калі пачынае ўсталёўвацца сухое надвор'е, пройдзе месячнік пажарнай бяспекі.**

Пажарныя звярнуўліся да жыхароў з просьбай праявіць максімум асцярожнасці ў абыходжанні з агнём, асабліва ў час адпачынку.

Забараняецца заезд транспарту ў лясныя масівы і на тарфянікі без асаблівай для гэтага патрэбы. Пры наведванні лясоў і торфаўгоддзяў трэба захоўваць асаблівую асцярожнасць. Нельга карыстацца адкрытым агнём, спальваць смецце, раскладваць вогнішчы.

За парушэнне правілаў пажарнай бяспекі ў лясах і на торфамасівах вінаватыя прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці, а шэраг парушэнняў можа пацягнуць за сабой і крымінальную адказнасць.

**Андрэй РАБЕЦ, інспектар Дзяржпажнагляду.**

## Спаборніцтва без прызавых месцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Па выніках эканамічнага спаборніцтва сярод прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання за 2000 год гарвыканком вырашыў прызавых месцаў не прысуджаць.**

Прычынай загадчык аддзела па гандлі, грамадскім харчаванні і бытавым абслугоўванні насельніцтва **Алена Місюкевіч** называе тое, што горад не выканаў гадавы план па росце аб'ёмаў гандлёвага тавараабароту.

У рашэнні выканкома запісана, што з гэтай жа прычыны выбылі са спаборніцтва 26 гарадскіх прадпрыемстваў, адзначаюцца станоўчыя тэндэнцыі ў дзейнасці трох.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МЕДЫЦЫНА

# Шчыт ці меч?

Паталогія шчытападобнай залозы – актуальная праблема для Беларусі. Па дадзеных сусветнай арганізацыі аховы здароўя, Беларусь разглядаецца як краіна з лёгкай і сярэдняй цяжкасцю ёднай недастатковасці.

Крыніца ёду на зямлі – вулканічная дзейнасць акіяна. Адтуль ён трапляе ў ваду, далей – у паветра, зямлю. Вось чаму ў прыморскіх раёнах практычна не сустракаецца дэфіцыту ёду. Вялікі ўдар па шчытападобнай залозе нанесла чарнобыльская трагедыя. Сутнасць праблемы ў тым, што на нашу "галодную" на ёд шчытападобную залозу "асеў" радыеактыўны ёд-131. Якім, разам з іншымі мікраэлементамі, быў начынены рэактар. Арганізм, на жаль, не ўмее адрозніваць радыеактыўны ёд ад нармальнага. І чым менш узрост у дзіцяці, тым больш непрадказальным у будучым могуць быць вынікі.

Шчытападобная залоза размяшчаецца на пярэдняй паверхні шыі, па форме вельмі падобная на матылька. Гэтая залоза, аб'ёмам усяго 18–25 мл, выпрацоўвае гармоны, якія адказваюць за:

- развіццё мозгу;
- рост касцявой сістэмы;
- энергетычны абмен рэчываў;
- сінтэз бялка;
- распад халестэрыну, тлушчу;
- сардэчную дзейнасць;
- псіхічныя працэсы.

Даводзіцца сутыкацца з "забабоннай" думкай, што ў перыяд цяжарнасці жанчыне не патрэбна займацца шчытападобнай залозай, нават калі і былі праблемы. Вынікам такога бяздзеяння можа быць:

- выкідыш;
- прыроджаная адсутнасць шчытападобнай залозы;
- прыроджаныя калецтвы;
- затрымка разумовага развіцця;
- адставанне ў росце;
- глуханемата.

Дзеці, якія растуць ва ўмовах ёднага дэфіцыту, пазней пачынаюць гаварыць, з цяжкасцю рашаюць матэматычныя прыклады, запамінаюць вершы. Такія дзеці, часцей за ўсё, вырастаюць "троечнікамі".

У дзяцей-падлеткаў праблема востра ўзнікае таму, што патрэбнасць у ёдзе у пераходны перыяд рэзка ўзрастае.

На сёння нас таксама хвалюе праблема росту колькасці вузлавых валлякоў (павелічэнне шчытападобнай залозы) у дзяцей. Часта гэта мае спадчынны характар. І таму настойліва рэкамендуецца тым сем'ям, дзе ёсць такая паталогія, штогод абследавацца ў дзіцячага эндакрынолага з абавязковым ультрагукавым даследаваннем шчытападобнай залозы. Апошнім часам азначаецца тэндэнцыя з'яўлення вузлавых валлякоў у дзяцей пасля моцных стрэсаў.

Па апошніх даследаваннях, першым сігналам пагаршэння функцыі шчытападобнай залозы можа з'явіцца звычайная плаксівасць дзіцяці. Калі плаксівасць можа быць заўважаная бацькамі, то павелічэнне шчытападобнай залозы ў той ці іншай ступені можа выявіць толькі спецыяліст – для гэтага ў Маладзечне існуе дзіцячая эндакрыналагічная служба. Акрамя агляду і рэкамендацый даволі часта ўзнікае неабходнасць у правядзенні ультрагукавога даследавання.

Прафілактычныя мерапрыемствы ў адносінах да шчытападобнай залозы скіраваныя на ўжыванне ёду з прадуктамі харчавання. Найбольш просты варыянт – ужыванне ёдаванай солі.

Ёдаваная соль павінна захоўвацца ў герметычных пакетах, інакш яна інактывіруецца. Падсольваць ежу неабходна непасрэдна перад ужываннем, бо падчас кіпення ёд выпарваецца. Таксама неабходна ўжываць прадукты, багатыя ёдам: марскую рыбу і ўсе морапрадукты, грэцкія арэхі, хурму. Прафілактычным сродкам служыць:

- ужыванне полівітамінаў з мікраэлементамі "+ёд", асабліва ў зімова-веснавы перыяд;
- выкарыстанне харчовых дадаткаў, якія ўтрымліваюць ёд;
- выкарыстанне медпрэпаратаў марскіх водарасцяў (сплат, фітасплат).

Калі названыя прафілактычныя мерапрыемствы не патрабуюць абавязковых кансультацый спецыяліста, то ўжыванне лекавых формаў ёду магчымае толькі пасля кансультацый эндакрынолага.

## Як папярэдзіць дэфіцыт ёду ў арганізме?

**Алена ЗАПРУДСКАЯ, урач-эндакрынолаг дзіцячай паліклінікі Маладзечна.**

■ МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

## Бясплатныя візы ў Літву

**ГРОДНА. З 20 сакавіка пагранічныя войскі Беларусі маюць права пры пэўных абставінах выдаваць бясплатныя гасцявыя візы грамадзянам Літвы і асобам без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі літоўскай дзяржавы.**

Для атрымання бясплатнай беларускай візы неабходна прадставіць заверанае ўрачом альбо органамі ўнутраных спраў Беларусі паведамленне аб цяжкай хваробе альбо смерці кагосьці са сваякоў. Пад атрыманне бясплатнай гасцявой візы таксама трапляюць паведамленні, атрыманыя па дыпламатычных каналах.

Бясплатную візу можна аформіць на прапускных пунктах «Прывалка — Райгардас», «Парэчча — Кабеляй», «Парэчча — Друскінінкай», «Беняконі — Стасілас», «Беняконі — Шальчынінкай», «Каменны Лог — Мядзінінкай», «Гудагай — Кена», «Катлоўка — Лаворышкес», «Лынтупы — Гелядне» і «Паставы — Адуцішкі».

Бясплатныя гасцявыя візы пры аналагічных абставінах могуць атрымаць і грамадзяне Беларусі, якім трэба тэрмінова трапіць у суседнюю краіну, але іх выдаюць не на мяжы, а ў консульскім аддзеле літоўскага пасольства ў Мінску.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

## Супрацоўніцтва з Панявежысам

**МАЛАДЗЕЧНА. Падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве паміж Маладзечанскім і Панявежскім раёнам Літвы.**

Падпісанне дакумента адбылося ў Маладзечанскім райвыканкоме пасля наведвання дэлегацыяй літоўскіх бізнесменаў ААТ «Белмастацкераміка», ААТ «Забудова», Маладзечанскай птушкафабрыкі і двух заводаў па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў у Чысці.

Старшыня Маладзечанскага райвыканкома **Леанід Заяц** адзначае, што Маладзечаншчына будзе адназначна ўзаемавыгаднае эканамічнае супрацоўніцтва, пераймаць досвед сельскагаспадарчага рэфармавання ў краінах Балтыі.

Маладзечанская птушкафабрыка наладзіла ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з вільнюскімі калегамі па гадоўлі курагнят. У Вільнюсе адкрыта прадстаўніцтва некалькіх маладзечанскіх прадпрыемстваў.

Кіраўнікі сямі калгасаў Маладзечаншчыны і ўпраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкама наведалі літоўскі канцэрн «Віконда» для вывучэння досведу іхняй работы і наладжвання партнёрскіх сувязяў у сферы вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі. Леанід Заяц упэўнены, што гэта дапаможа ўмацаваць вытворчасць і эканоміку раёна ў цэлым.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Федэралы на Нарачы

**МЯДЗЕЛ. У санаторыі беларускага Міністэрства ўнутраных спраў «Белая Русь» на возеры Нарач праходзяць курс рэабілітацыі супрацоўнікі расійскіх СОБРа і АМАПа, якія атрымалі раненні падчас баявых дзеянняў у Чачні, а таксама члены сем'яў загінуўшых супрацоўнікаў міліцыі.**

Прэс-сакратар МУС Беларусі **Дзмітрый Партон** гаворыць, што рашэнне аб арганізацыі адпачынку і рэабілітацыі супрацоўнікаў расійскай міліцыі, якія ваявалі ў Чачні, прынята пасля пасяджэння аб'яднанай калегіі міністэрстваў унутраных спраў дзвюх дзяржаў, што прайшло ў кастрычніку. З таго часу на беразе самага вялікага ў рэспубліцы возера адпачылі тры групы расіянаў — некалькі дзесяткаў чалавек з Масквы, Санкт-Пецярбурга і Разані. Цяпер чакаецца чарговы заезд. Поўны курс рэабілітацыі — 21 дзень.

Партон таксама адзначыў, што беларускі бок узяў на сябе ўсе расходы па дастаўцы расійскіх грамадзян у санаторый, пражываннію і медыцынскаму абслугоўванню.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

## Усе на барацьбу з тараканамі?



З вялікай колькасці бытавых насякомых найчасцей сустракаюцца ў жытле чалавека рыжыя тараканы. Яны вядуць схаваны лад жыцця, актыўны ў начны час. Сілкуюцца прадуктамі харчавання чалавека і харчовымі адходамі. У рыжых тараканаў хапае ежы, і пры пакаёвай тэмпературы развіццё яйка да палавасспелага насякомага заканчваецца на працягу 6 месяцаў.

Тараканы, у асноўным, засяляюць месцы грамадскага харчавання, і з разнастайнай тарай, у сумках, з адзеннем персаналу прадпрыемстваў могуць быць перанесеныя ў кватэры. Завезеныя ў 1–2 кватэры тараканы хутка засяляюць кватэры, размешчаныя побач, а затым ва ўсім доме. Пераходзяць яны праз шчыліны перагародак на газавых, ацяпляльных, водаправодных трубах, праз аконныя форткі, дзвярныя адтуліны, іх пераводзяць разам з дыванамі і мэбляй.

Тараканы не бяскрыўдныя насякомыя, яны пераносяць ўзбуджальнікаў дызентэрыі, брушнога тыфу, туберкулёзу, поліяміэліту і іншых хвароб, забруджваюць сваімі экскрэментамі прадукты харчавання.

Каб не было тараканаў у кватэры, патрэбна своечасова рамантаваць будынкі, закладкоўваць шчыліны, адтуліны ў сценах, падлозе (асабліва каля плінтусаў), аглядаць выключальнікі і бытавыя электрапрыборы.

Для знішчэння тараканаў у дамашніх умовах найбольш бяспечным сродкам з'яўляецца борная кіслата. Самае эфектыўнае прымяненне борнай кіслаты ў выглядзе пасты або харчовых прыманак.

**Як зрабіць пасту**

10–20 г борнай кіслаты, 10–20 г крухмалу. Сумесь заліць кіпнем да агульнай масы 100 г, давесці да кіпення, але не кіпяціць. Астудзіць да 60–70 градусаў і ў гарачым выглядзе нанесці пэндзлем або тампонам на заднія сценкі мэблі, апрацаваць шчыліны, плінтусы і г. д.

**Як зрабіць прыманку**

10–20 г борнай кіслаты, 100 г (1–2 штукі) варанай бульбы, 3–5 г алею. Гарачую бульбу растаўчы, змяшаць з борнай кіслатой, дадаць алей. Прыманку раскласці ў тару, якая не паб'ецца, і расставіць у месцах, недаступных для дзяцей.

60 г борнай кіслаты, 1 сыры яечны бялок, зрабіць шарыкі дыяметрам 1 см і раскласці ў месцах канцэнтрацыі тараканаў, недаступных для дзяцей і жывёл. Для апрацоўкі памяшканняў у 30 кв. м дастаткова выкарыстаць 0,5 кг пасты або 200–300 г прыманкі.

Для поўнага вызвалення памяшканняў ад тараканаў правядзіце паўторную апрацоўку праз 10–14 дзён.

**Святлана СІНЯГОЎСКАЯ, загадчыца аддзела прафдэзінфекцыі Маладзечанскага райЦГіЭ.**

# Геаэкалагічны стан горада Маладзечна і наваколіц.

## Частка першая. Гісторыка-дэмаграфічныя асаблівасці рэгіёна.

З моманту узнікнення чалавека як біялагічнага віду, ён увесь час імкнуўся адасобіць сябе ад прыроды. Вынаходжанні агня, вопраткі, жытла вельмі спрыялі гэтаму працэсу. З цягам часу чалавецтва дасягала ўсё большых і большых поспехаў у адасабленні ад прыроды: збіральніцтва замянілася земляробствам, паляванне — жывёлагадоўляй. Потым развіццё тэхналогіі прывяло і да адасаблення рамясла ад земляробства, землянкі змяніліся хіжынамі, а неабходнасць бараніцца ад ворагаў прывяла да ўзнікнення вакол паселішчаў каменных сцен. Такім чынам, дзесьці 3,5 тыс. гадоў таму з'явіліся першыя гарады і пачаў фарміравацца гарадскі лад жыцця.

З экалагічнага пункту гледжання ўзнікненне гарадоў і гарадскога ладу жыцця было не менш важнае, чым развіццё земляробства, бо ўпершыню чалавек стварыў свой асабісты свет, дзе галоўная роля адводзілася не прыродным, а сацыяльным законам.

На сучасным этапе гарадам называюць вельмі розныя па абліччы, памерах і ступені складанасці населеныя пункты, агульнымі прызнакамі для якіх з'яўляецца, пераважна, занятасць жыхароў па-за сельскагаспадарчай вытворчасцю. У астатнім кожная краіна кіруецца сваімі крытэрыямі гарадскіх паселішчаў, і нават ААН выкарыстоўвае два метады ўліку гарадоў: нацыянальныя крытэрыі і колькасныя параметры (звыш 5000 і 20000 жыхароў).

Горад Маладзечна з'яўляецца значным прамысловым, навуковым, культурным і спартыўным цэнтрам Беларусі. Ён уваходзіць у лік 37 гарадоў рэспубліканскага падпарадкавання па адміністрацыйным значэнні, што характэрызуе Маладзечна як горад з вельмі развітымі прамысловасцю, камунальнай гаспадаркай, сеткай паслуг і дзяржаўным жылым фондам. Па велічыні і колькасці насельніцтва Маладзечна адносіцца да групы сярэдніх гарадоў з колькасцю насельніцтва ад 50 да 100 тысяч жыхароў. У Беларусі, дарэчы, налічваецца толькі 9 такіх населеных пунктаў. Гэты клас гарадоў адрозніваецца сваёй дынамічнасцю і няўстойлівасцю. Яны, па сутнасці, з'яўляюцца пераходнай стадыяй паміж малым і вялікім горадам, таму стабільнае экалагічнае становішча і своечасовае вырашэнне наспяваючых экалагічных праблем важныя як з пункту гледжання сучаснасці, так і будучага.

Рысы сярэдняга горада Маладзечна пачынае набываць пасля Другой сусветнай вайны, з пачаткам масавага будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў. Да гэтага, напачатку свайго развіцця, Маладзечна з'яўляўся гандлёва-рамесніцкім цэнтрам. На карце ВКЛ канца XV – пачатку XVI стагоддзя, заснаванай на адшуканых М.К. Любаўскім дакументах гэтага перыяду, Маладзечна адносілася да такой катэгорыі населеных пунктаў, як "важнейшыя княжацкія двары пры месцах ці сёлах". Усяго такіх паселішчаў у Віленскім ваяводстве было 98, да іх належалі і Радашковічы, Мядзел, Валожын, Ракаў, Заслаўе, Івянец. У перыяд Сярэднявечча і Новага часу Маладзечна не мела магдэбургскага права і адносілася да прыватнаўласніцкіх гарадоў. Выгаднае геаграфічнае становішча спрыяла развіццю гандлю і росту насельніцтва, але шматлікія войны часта спусташалі гэтую зямлю і выклікалі шматлікія страты насельніцтва. Гарадская забудова развівалася ў гэты час на балоцістай пойме ракі Уша, дзе быў пабудаваны замак абарончага значэння, і на прылягаючых краявідах плоскай азёрна-балотнай нізіны з астанцамі водналедніковай раўніны.

Значны вехай у развіцці гарадской геаэкасістэмы з'яўляецца будаўніцтва Лібава-Роменскай і Сядлецка-Пецярбургскай чыгунак.

**Вадзім Зубрыцкі, студэнт 4 курса геафака БДУ, сапраўдны член Беларускага Геаграфічнага таварыства.**

Працяг будзе.



# Паварушы мазгамі, №48

Эх, мае харошыя – вясна! Добры вам дзень!

Ну як, не складаным аказалася заданне? Вось адказ:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 2 | 3 | 0 | 0 | 4 | 4 |
| 2 | 5 | 4 | 4 | 0 | 1 | 1 |
| 6 | 1 | 5 | 4 | 4 | 0 | 0 |
| 3 | 2 | 6 | 6 | 3 | 3 | 5 |
| 1 | 5 | 5 | 6 | 4 | 3 | 0 |
| 1 | 1 | 5 | 2 | 6 | 0 | 0 |
| 3 | 2 | 5 | 1 | 2 | 2 | 6 |
| 6 | 4 | 3 | 6 | 3 | 5 | 1 |

Выдатна справіліся з забаўкай **М.М. Адамовіч, Арцём Бабарыкін, Віталь Бядрыцкі, Руслан Гасанаў, Юрый Жыганаў, Вольга Каркоцкая, Святлана Каркоцкая, Андрэй Каўзовіч, Саша Кендыш, Павел Красненка, Сяргей Кузняцоў, Мікалай Ліннік, Наталля Місуна, Дзіма Пакладок, Вольга Палівода, Наталля Прушак, Сяргей Смалонскі, Гражына Станкевіч, Андрэй Стрэж, Павел Сушан, Святлана Шыман, Юрый Юхневіч.**

А самым шчаслівым у нашай латарэі ёсць **Дзіма Пакладок** з Маладзечна. Прыз і дыплом чакаюць у рэдакцыі.

## Падзяліце цыферблат



Заданне наступнае. Падзяліце круглы цыферблат гадзінніка на тры часткі так, каб сума лікаў у кожнай частцы была роўнай 17. Не забывайцеся, што неўзабаве першае красавіка.

**Напішы адказы на паштоўцы** і дашлі на адрас рэдакцыі. Падпішыся на паштоўцы. **Адказы прымаюцца да серады.** Сярод тых, хто знойдзе правільнае рашэнне, будзе разыграны прыз. Шчасліўчыку ўручым таксама дыплом. Не сярдуй, калі правільна адкажаш на заданне, а не знойдзеш прозвішча сярод прэтэндэнтаў на прыз. Проста ты даслаў рашэнне не на паштоўцы.



**Якім ПЯРЭЧКА.**

## Гараскоп: 2 – 8 красавіка



**Авен**
(21.03–20.04)

Увесь перыяд пройдзе пад знакам "Сям'і". Вы будзеце паспяхова займацца дзецьмі, праблемамі сваякоў. Клопату і ўвагі запатрабуюць старэйшыя. Нікому не адмаўляйце, адкладзіце іншыя справы – і ваша добразычлівасць будзе ўзнагароджаная шматразова.



**Цялец**
(21.04–21.05)

У справах – часовы застой. Не перажывайце з-за некаторага недахопу грошай. У гэты перыяд лепш заняцца сабой. Калі можаце, вазьміце адпачынак за свой кошт, таму што работнік з вас будзе ніякі. Цяльцы-начальнікі могуць быць несправядлівыя з падначаленымі і сапсаваць адносіны.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Вы зоймецеся рэфармаваннем з такім імпэтам, што навакольным лепш быць далей ад вас. Калі гэта не будзе звязана з пераменамі ў працы ці асабістых кантактах, то вы проста кінецеся... перастаўляць мэблю або перабіраць рэчы ў шафах. Нестабільная фінансавая сітуацыя можа перашкодзіць планам.



**Рак**
(22.06–23.07)

Па магчымасці больш гуляйце на свежым паветры, адыдзіце ад спраў цалкам, не хапайцеся за ўсё адразу. Будучы перыяд прызначаны для энергіі, якая вам надзвычай спатрэбіцца ў бліжэйшыя два месяцы: бурныя перамены, якія вас чакаюць, запатрабуюць вельмі шмат сіл. Займіцеся домам, сям'ёй.



**Леў**
(24.07–23.08)

Вы будзеце некалькі адхіленыя ад таго, што адбываецца, многае, што здавалася важным яшчэ ўчора, набудзе характар дробязяў, мітусні і суму. Пры гэтым погляд "зверху" лепш змяніць на погляд "збоку", менавіта такім чынам вы зможаце рэальна ацаніць і свае поспехі, і свае памылкі.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Усё пойдзе, як па маслу. Тое, што не давала спаць па начах, будзе вырашана ў лічаныя гадзіны. Перыяд выдатна падыходзіць дылерам, сышчыкам і хірургам, а таксама тым, хто заняты навуковымі распрацоўкамі: праз тыдзень абавязкова пераправерце атрыманыя цяпер вынікі.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Не рызыкуйце дарэмна і адкладзіце важныя крокі на тыдзень. У прынцыпе, перыяд нядрэнны. І калі размова ідзе пра дробязі, то можаце эксперыментаваць. А вось калі вы сабраліся ў небяспечнае падарожжа, займаецеся экстрэмальнымі відамі спорту ці вырашылі праінвесціраваць сваё або чужыя праекты, лепш патрываць.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Практычна для ўсіх знакаў Задыяка перыяд пройдзе без бурных перажыванняў, неардынарных падзей, у цішыні і спакоі. Тое ж тычыцца і вас. Праблема толькі ў тым, што ва ўраўнаважаным стане вы можаце знаходзіцца ці ў сне, ці не больш пяці хвілін.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Нічога асаблівага, усё, як звычайна, без узрушэнняў і навін. Вы можаце свой павышаны творчы патэнцыял прымяніць да напрацоўкі будучых праектаў, таму што ў дадзены перыяд новыя прапановы паступаць не будуць. Добрыя дні для самаадукацыі, а таксама набыцця нерухомасці або буйных рэчаў.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Невялікае недамаганне ў выхадныя дні, верагодна, адменіць паход на вечарынку або ў госці. Паспрабуйце не шкадаваць сябе ў адзіноце, а запрасіць сяброў да сябе. А 7–8-га красавіка вас чакае паездка камерцыйнага характару, у якую лепш адправіцца з партнёрамі.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Вы адчуеце яўны недахоп інфармацыі. Вам падасца, што многае, пра што вы павінны ведаць, адбываецца ў вас за спінай. І апасенні гэтыя, у асноўным, будуць абгрунтаваныя. Паспрабуйце не выпускаць з поля зроку ні партнёраў па жыцці, ні калег па рабоце.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Вы яшчэ не вызначыліся ў прыярытэтах? Што ж, яшчэ час ёсць. Рыбы, занятыя творчасцю, могуць дамагчыся добрых вынікаў. Рыбы, занятыя бізнесам, павінны раскашэліцца, а Рыбы, нічым не занятыя, могуць спакойна ляжаць на канапе: у гэты перыяд усё ім будзе давацца проста так.

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



Па гарызанталях: 2. Салодкі спіртны напітак з фруктовых і ягадных сокаў, траў. 5. Споравая расліна без каранёў і кветак. 6. Слізістая абалонка, якая пакрывае карані зубоў. 9. Вялікі ядавіты павук. 11. Урачысты верш. 13. Духоўны кіраўнік у мусульман. 16. Камяністы папярочны выступ на дне ракі. 19. Устройства, на якім гушкаюцца для забавы. 20. Рака ў Расіі. 22. Шумны публічны поспех. 23. Род, радавая абшчына. 25. Злучаныя ў цэлае розныя часткі чаго-небудзь. 27. Жаночае імя. 30. Публічнае паведамленне – разгорнутае асвятленне якой-небудзь тэмы. 33. Ватападобнае валакно, якое ідзе на выраб пражы. 35. Таможня. 36. Радыёлакацыйная ўстаноўка. 37. Запрэжка з двух коней. 39. Першая кругавая баразна на ворыве. 40. Узвышэнне якой-небудзь паверхні.

Па вертыкалях: 1. Непразрысты мінерал ярка-зялёнага колеру. 3. Самец качкі. 4. Радыеактыўны хімічны элемент – газ, які выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне. 5. Тое, да чаго імкнуцца, што трэба ажыццявіць. 7. Буйны брыльянт. 8. Горад у Казахстане. 10. Род ядавітай змяі. 12. Лічба. 14. Наданне свайму твару больш прыгожага выгляду пры дапамозе крэму, пудры і інш. 15. Косці, якія ўтвараюць цвёрдую аснову галавы ў пазваночных. 17. Радок або страфа, якія ў пэўным парадку паўтараюцца ў вершы. 18. Жонкі і наложніцы ў мусульманіна. 21. Спецыяльная ёмістасць для смецця. 24. Амерыканскі пісьменнік. 26. Вадкасць, насычаная варам таго, што ў ёй варылася. 28. Халодная будыніна для захоўваня кармоў, інвентару. 29. У танцы: асобны рух з пэўнай пастаноўкай ног. 31. Павойная кустовая або дрэвавая расліна. 32. Паласа зямлі, прызначаная для язды і хадзьбы. 33. Шалаш з галін або саломы для часовага жылля. 34. Смеласць, рашучасць. 38. Воз.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў №12**

ЛАПСАРДАК.




**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8330 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№13 (310) 30.03.2001**. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 29.03.2001



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»**